наша свабода

№109(196) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

8 КАСТРЫЧНІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# ЗША пачалі аперацыю помсты



Учора ўвечары ЗША і Вялікабрытанія распачалі-такі сумесную ваенную аперацыю ў адказ на тэрарыстычныя акты ў Нью-Йорку і Вашынгтоне 11 верасня. Ваенна-паветраныя сілы амерыканцаў і англічан бамбардзіруюць пазіцыі руху «Талібан» па ўсёй тэрыторыі Афганістана. У прыватнасці, быў разбомблены Кабул, камандны пункт аэрапорта ў горадзе Кандагар, што на поўдні Афганістана. Рэч у тым, што тут доўгі час знаходзілася кіраўніцтва талібаў. У звароце да нацыі прэзідэнт ЗША Джордж Буш сказаў, што гэтак Злучаныя Штаты Амерыкі адкрываюць новы фронт у барацьбе супраць міжнароднага тэрарызму. Дж.Буш таксама заявіў, што ЗША падтрымліваюць у гэтай аперацыі і астатнія дзяржавы *NATO*.

## Грамада патрабуе рэвізіі

*Параза ў прэзідэнцкіх выбарах, як і варта было чакаць, прывяла да пошуку вінаватых у стане апазіцыі. У значны скандал можа выліцца ініцыятыва старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча.*

Лідэр сацыял-дэмакратаў прапануе Палітычнаму савету пры адзіным кандыдаце ў прэзідэнты стварыць спецыяльную камісію, якая мусіць расследаваць публікацыі ў прэсе аб карупцыі сярод асобных кіраўнікоў апазіцыі.

Мікола Статкевіч распрацаваў праект пастановы, які збіраецца вынесці на абмеркаванне бліжэйшага паседжання Палітсавета, запланаванага на 19 кастрычніка. «Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі і інтэрнэце з'явіліся паведамленні пра тое, што ў палітычных партыях і грамадскіх аб'яднаннях, якія ўваходзяць у Палітычны савет пры адзіным кандыдаце, мелі месца выпадкі прысвойвання кіраўніцтвам гэтых структур сродкаў, што выдзяляліся замежнымі спонсарамі для падтрымкі дэмакратычнага руху. Прыкладам такой інфармацыі можа служыць артыкул Аляксандра Фядуты ў «Белорусской газете» ад 24 верасня 2001 года «Уже насосались».

М.Статкевіч перакананы, што абвінавачанні такога кшталту падрываюць аўтарытэт апазіцыі ў цэлым і пагражаюць адзінству шырокай грамадзянскай кааліцыі, сфармаванай з такімі цяжкасцямі. Таму лідэр Народнай Грамады патрабуе ад Палітсавета стварыць у рамках савета камісію па праверцы выкладзеных у прэсе фактаў нядобрасумленнасці сярод кіраўнікоў апазіцыі. У камісію мусяць увайсці прадстаўнікі ўсіх суб'ектаў шырокай грамадзянскай кааліцыі, а ўзначаліць яе прапануецца былому суддзю Канстытуцыйнага суда Міхаілу Пастухову.

*Заканчэнне на стар.3*

## Шклоўцы ідуць!

Шклоўска-магілёўская кадравая хваля працягвае накатвацца на Мінск. Не паспелі мы напісаць у мінулым нумары пра гэтую цікавую тэндэнцыю, як – новае прызначэнне. У пятніцу Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб прысваенні ў сваё атачэнне – на пасаду начальніка Службы бяспекі прэзідэнта – чарговага земляка. Ім стаў кіраўнік Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў, палкоўнік фінансавай міліцыі Яўген Дзвярніцкі.

Былы фінансавы паліцэйскі, якога тут ва атэставалі на вайсковага палкоўніка, родам са Шклова. Ён старэйшы за А.Лукашэнку на два гады. Па адукацыі – міліцыянт. Пасля прыходу з арміі пачаў у 1974 годзе працу ў Шклоўскім раённым аддзеле ўнутраных справаў, дзе прайшоў шлях ад інспектара да намесніка начальніка РАУСа. Апошнюю мясцовую прыступку, якая вяла на пасаду начальніка Шклоўскага РАУС, Я.Дзвярніцкі адолеў пры А.Лукашэнку – у 1995 годзе.

Але ўжо ў наступным годзе ягоныя здольнасці і талент спатрэбіліся ў Мінску. У сталіцы Яўген Дзвярніцкі становіцца намеснікам старшыні Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі – начальнікам галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў. У 1998 годзе пасля рэформы падатковага ведамства ён пачынае кіраваць Дзяржаўным камітэтам фінансавых расследаванняў.

Дагэтуль супрацоўнікі шматлікіх камерцыйных фірмаў з жахам прыгадваюць візіты падначаленых Я.Дзвярніцкага – бравых хлопцаў у скуранках і з сотавымі тэлефонамі ў кішэні. Цяпер чалавек, што выгадаваў падатковую паліцыю Беларусі, змяніў працу. Яму даверылі ахоўваць галоўную каштоўнасць краіны – А.Лукашэнку. Думаецца, што тут ён не падвядзе – бо навыкі працы з «крутымі» і «суперкрутымі» Я.Дзвярніцкі ўжо мае.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Севярынца засудзяць за «МАЗ»

Сёння мусіць быць вынесены прысуд па справе супраць лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца. Ён абвінавачваецца ў «арганізацыі незаконнага пікетавання». За патрабаванне захаваць Мінскі аўтазавод беларускім суддзя можа спагнаць з Паўла Севярынца штраф у памеры да 300 мінімальных заробкаў (2.250.000 рублёў – каля 1.500 долараў) або пасадзіць за краты на 15 дзён.

Нагадаем, што 2 кастрычніка Малады Фронт праводзіў пікет супраць продажу «МАЗа» расійскай карпарацыі «Сибирский алюминий». Як вядома, цяпер заканчваецца юрыдычнае афармленне гэтай здзелкі, у якой 33-гадовы алігарх Алег Дзерыпаска адвальвае кіраўніцтву Беларусі за кантрольны пакет акцыяў Мінскага аўтазавода ажно 50 мільёнаў долараў.

Акцыя «МФ» праходзіла ля цэнтральнай прахадной аўтазавода і працягвалася толькі некалькі хвілінаў, пасля чаго адразу пачаліся затрыманні. Паўла Севярынца міліцыянты «павязалі» адным з першых. Па сведчанні лідэра маладафронтаўцаў, ён паспеў толькі двойчы крыкнуць «МАЗ – беларускі!». Услед за ім у пастарунак патрапілі яшчэ 7 чалавек ва ўзросце да 18 гадоў.

У мінулую пятніцу ў Заводскім судзе горада Мінска пачаўся адміністрацыйны працэс супраць арганізатараў пікета.

Суддзя Мікалай Балаўнёў заслухаў сведкаў – намесніка старшыні Заводскага РУУС Уладзіміра Навіткевіча, які кіраваў затрыманнямі, і двух шараговых міліцыянтаў.

П.Севярынец сваю віну не прызнаў і запатрабаваў правесці вывучэнне стужкі, якую знялі міліцэйскія спецаператары падчас разгону акцыі. Высветлілася, што відэакамера не зафіксавала актыўнага ўдзелу П.Севярынца ў пікеце. На стужку патрапілі толькі моманты затрымання. У выніку суддзя перанёс вынясенне канчатковага рашэння па справе на панядзелак, 8 кастрычніка.

**Ірына СТАРЦАВА**



Паўла Севярынца затрымліваюць у часе пікета каля прахадной МАЗа

## «Мы застаемся надта заклапочаныя...»

Такую заяву зрабіла памочніца дзяржаўнага сакратара ЗША ў эўрапейскіх справах Элізабэт Джоўнз ад імя амэрыканскае Камісіі па бясьпецы й супрацоўніцтву ў Эўропе. Яна дадала, што Вашынгтон працуе з Расеяй для развязваньня беларускае праблемы і нагадала, што ЗША вельмі заклапочаныя «Лукашэнкавым эскадронам сьмерці».

Тым часам афіцыйны Менск публічна пагадзіўся на працяг дзейнасьці КНГ АБСЭ ў Беларусі.

У заяве пра палітыку ЗША наконт АБСЭ, якая была падрыхтаваная для слуханьня ў Гельсынскай камісіі, зазначаецца, што АБСЭ адыграла актыўную ролю, спрабуючы забясьпечыць адпаведнасьць прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі 9 верасьня міжнародным стандартам свабодных і справядлівых выбараў, і канстатуецца: «Гэта не было дасягнута. Лукашэнкаў рэжым ня здолеў выканаць чатыры крытэры, вызначаныя летась парлямэнцкай «тройкай» АБСЭ. Ён перасьледаваў лідэраў апазыцыі, не даваў свабоднага доступу да дзяржаўных мэдыяў, вызначаў склад выбарчых камісіяў, забараняў групаў унутраных назіральнікаў і перашкаджаў працы БДІПЧ – Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека АБСЭ ды іншых міжнародных назіральнікаў».

Памочнік дзяржаўнага сакратара ЗША ў эўрапейскіх справах Элізабэт Джоўнз заявіла таксама: «Мы й нашыя сябры ды саюзьнікі ня можам прыняць вынік выбараў, якія настолькі відавочна не змаглі быць адпаведнымі прынятым міжнародным стандартам, улучна з тымі, што ёсьць у Капэнгагенскім дакумэнце АБСЭ». Паводле спадарыні Джоўнз, Злучаныя Штаты працуюць з краінамі-сябрамі АБСЭ, уключаючы Расею, каб прывесьці Беларусь у адпаведнасьць з прынятымі ёю на сябе абавязацельствамі.

*Заканчэнне на стар.3*

## Беларускага абутку становіцца меней

У Беларусі знізілася вытворчасць скуранога абутку. За 9 месяцаў гэтага года ў нашай краіне абутковыя прадпрыемствы «Беллегпрама» выпусцілі 7.180.000 пар, што на 18% меней, чымсьці летась. Да гэтага спрычыніліся недастатковасць сыравінных паставак і праблемы з рэалізацыяй тавару.

## Падаражэў валідол

Падаражэлі прэпараты, што выпускаюць Барысаўскі завод медпрэпаратаў, «Белмедпрэпараты» і прадпрыемства «Мінскінтэркапс» – адпаведна на 5,1%, на 3,7% і 20%. Валідол, напрыклад, падаражэў з 113 да 130 рублёў.

## Энергетычны доўг

Больш за паўтрыльёна рублёў вінныя беларускія спажыўцы за атрыманую энергію. Усяго 35% ад кошту спажытай энергіі суб'екты гаспадарання аплачваюць грашыма, астатняе – бартэр.

## 9 беларускіх міратворцаў

Адабраныя 9 беларусаў, якія, магчыма, будуць браць удзел у акцыях ААН па падтрыманні міру. Адбор уяўляў сабой тэставанне на валоданне ангельскай мовай, кіраванне аўтамабілем, праверка прафесійных ведаў. Большасць з кандыдатаў былі вылучаныя міністэрствам унутраных справаў, Камітэтам памежных войскаў і Мытным камітэтам.

## «Аэрафлот» у Беларусі

Расійская авіякампанія «Аэрафлот» адкрыла сваё прадстаўніцтва ў беларускай сталіцы. Асноўная мэта — прадастаўленне пасажырам новых відаў паслугаў. Адна з іх — транзітны пералёт грамадзянаў Беларусі ў трэція краіны з непрацяглай пасадкай у Маскве.

## На фестываль нацыянальных культураў

Гомельшчына першая з беларускіх рэгіёнаў вызначыла ўдзельнікаў IV Усебеларускага фестывалю нацыянальных культураў, які мае адбыцца ў чэрвені наступнага года ў Гродне. На Гомельшчыне жывуць прадстаўнікі 110 нацыянальнасцяў. Беларусаў — 82,2% насельніцтва, на другім месцы расейцы — 11%.

## Выпрабаванні ветрака

Скончыліся выпрабаванні першай беларускай ветраэнергетычнай установкі, што зробленая спецыялістамі фірмы «Аэрола» і ўстаноўленая ў вёсцы Волма Дзяржынскага раёна. Наш ветрак на эфектыўнасці болей як у 2 разы пераўзыходзіць ужо працуючы ў Беларусі, які зроблены сумесна датчанамі і немцамі.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1500



## Палата рыхтуе «пакаянны ліст»

Намеснік старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах і сувязях з СНД Анатоль Красуцкі накіраваў у Нацыянальную тэлерадыёкампанію Беларусі дэпутацкі запыт, у якім заяўляе аб намеры прыцягнуць да судовай адказнасці журналіста, які рыхтаваў 2 кастрычніка сюжэт аб дзейнасці Палаты прадстаўнікоў.

Нагадаем, што 2 кастрычніка Красуцкі стаў ініцыятарам унясення ў парадак дня бягучай сесіі пытання аб выкананні Закона аб статусе дэпутата. Ён таксама ў сваім выступленні не выключыў у будучым пастаноўкі пытання аб замене кіраўніцтва Палаты прадстаўнікоў. Прапанову Красуцкага падтрымалі пераважная большасць парламентарыяў – 94 чалавекі. Аднак увечары па Беларускім тэлебачанні быў паказаны ананімны сюжэт, у якім парламентарыяў абвінавацілі ў тым, што яны патрабуюць для сябе павышэння заработнай платы і адкрыцця валютных рахункаў для замежных камандзіровак.

У сувязі з гэтым Красуцкі таксама патрабуе ад Беларускага тэлебачання прадаставіць яму магчымасць выступіць з выкладаннем сваёй пазіцыі па дадзеным пытанні да наведвання парламента Аляксандрам Лукашэнкам 10 кастрычніка.

Між тым крыніца ў парламенце паведаміла БелаПАН, што ў Палаце прадстаўнікоў распаўсюджваецца «пакаянны ліст» дэпутатаў, адрасаваны Аляксандру Лукашэнку.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Надзіва мяккі вырак

4 кастрычніка суд Цэнтральнага раёна Мінска прызнаў Сяргея Віннікава, сына былога старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Тамары Віннікавай, вінаватым у незаконным абароце наркотыкаў і асудзіў яго да двух гадоў папраўчых работ без пазбаўлення волі. На працягу гэтых двух гадоў з заработнай платы Віннікава, які да арышту займаўся прыватным бізнесам, 20% будзе пералічвацца дзяржаве.

Вінаватымі ў незаконным абароце наркотыкаў прызнаныя яшчэ тры чалавекі, якія праходзяць па гэтай крымінальнай справе. Усе яны атрымалі розныя пакаранні – ад штрафу да пазбаўлення волі на два гады.

Нагадаем, што Сяргей Віннікаў правёў у следчым ізалятары пяць месяцаў; у ліпені гэтага года яго выпусцілі на волю па стану здароўя. Суд над сынам экс-кіраўніка Нацбанка быў закрытым, прычым, як сцвярджае яго адвакат Аляксандр Пыльчанка, ініцыятарам гэтага стаў сам Віннікаў. Сваю просьбу ён матываваў тым, што ў судзе можа быць агучаная інфармацыя прыватнага характару.

Сяргей Віннікаў сваёй віны не прызнаў, аднак пакуль невядома, ці мае ён намер абскардзіць прыгавор суда.

**БелаПАН**

## Збіраюць табар на Маскву

Зноў заведама стратны грузавы караван збірае ў Маскву «вертыкаль» Брэстчыны. Прымусовым чынам да прадпрыемстваў на 16 раённых тэрыторыях, а таксама ў Брэсце, Баранавічах і Пінску даведзеныя заданні па таварным асартыменце, фірмовай экіпіроўцы гандляроў і наяўнасці кухарскага рыштунку для гатавання гарачых вулічных пачастункаў – дранікаў, мачанкі, таўканіцы з салам. Каб забаўляць масквічоў, на выязны рэгіянальны кірмаш выклікаюць лепшых самадзейных артыстаў, а для спартыўнай праграмы – яшчэ і 75 школьнікаў з юнацкіх секцыяў валейбола, футбола, бадмінтона, лёгкай атлетыкі. 11 кастрычніка калона з больш як 40 адзінак грузавога і пасажырскага транспарту накіруецца пад міліцэйскім суправаджэннем у 1050-кіламетровы шлях з Брэста да Кунцава. З досведу папярэдняга года гандлёвы народ падгавораны не палохацца і не даваць хабар незлічонай колькасці правяраючых фінансавую, пажарную, санітарную, тэхнічную і нават тэрарыстычную бяспеку ад ваяжу беларусаў. Яшчэ нервуючыя клопаты, што трэба цёпла апранацца. У Маскве ноччу нельга пакінуць без сваёй варты тавар і транспарт, а каму выпадае спаць, то ў халодных школьных спортзалах ці вайсковых казармах. Навошта ж у такім разе лезці напралом, калі нашых сустракаюць як прыслугу?

**Галіна БАРАВАЯ**

**ПРАЦЭС**

## Суд над «Пагоняй» зацягваецца

5 кастрычніка ў Вышэйшым гаспадарчым судзе Рэспублікі Беларусь адбыўся працяг судовага працэсу па справе аб закрыцці недзяржаўнай газеты «Пагоня».

Суддзя Валерый Жандараў зноў прыняў рашэнне «дзеля правільнага і ўсебаковага высвятлення абставінаў» перанесці судовы разбор, цяпер на 23 кастрычніка. Матываваў ён гэта тым, што Гродзенская абласная пракуратура не прадаставіла суду копію пратакола арышту, яшчэ ў друкарні, усяго накладу 36-га нумара газеты ад 4 верасня.

На самым пачатку сённяшняга судовага паседжання абаронца «Пагоні», адвакат Анжэла Ратнер, заявіла хадайніцтва аб спыненні справы ў адносінах да газеты. Паводле яе словаў, пасля таго як 27 верасня Дзяржаўны камітэт па друку адмовіўся ад іску ў адносінах да газеты, не ўгледзеўшы прававых падставаў для яе закрыцця, справа падлягае спыненню. Аднак, суддзя Валерый Жандараў адхіліў гэтае хадайніцтва.

Кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Міхаіл Пастухоў выказаў сваё незадавальненне сённяшнім судовым працэсам: «Суд звярнуў увагу на непатрэбныя акалічнасці. Гэта штучнае зацягванне працэсу, суд не хоча выносіць рашэнне на карысць рэдакцыі газеты, хаця яно відавочнае. Суддзя адцягвае прыняццё канчатковага рашэння толькі для таго, каб не выступаць супраць пракуратуры і даць ёй магчымасць паспрабаваць знайсці іншыя аргументы супраць «Пагоні».

**Павел МАЖЭЙКА**

**ГРОШЫ**

## Не плацяць заробкі

Запазычанасць па зарплаце ў Брэсцкай вобласці перавысіла 5 мільярдаў рублёў. Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні абласнога аб'яднання прафсаюзаў Аляксандр Кавіцкі, на 1 кастрычніка яна склала 5 мільярдаў 175 мільёнаў рублёў – гэта 10 працэнтаў ад агульнага фонду заработнай платы па вобласці. Прычым, як адзначаюць у аб'яднанні прафсаюзаў, запазычанасць узнікла за апошні месяц; у канцы жніўня пратэрмінаванай запазычанасці не было.

Асноўныя даўгі – каля 4 мільярдаў рублёў – прыпадаюць на аграрны сектар. У прамысловасці доўг па зарплаце складае 180 мільёнаў, у будаўніцтве – 164 мільёны рублёў. Паводле афіцыйных звестак, толькі Брэсцкі раён і Баранавічы не маюць запазычанасці. У цяжкім стане апынуліся працаўнікі Баранавіцкага, Кобрынскага, Пінскага і Столінскага раёнаў.

Спецыялісты абкама прафсаюза сцвярджаюць, што, акрамя агульнавядомых эканамічных прычын, да запазычанасці вядзе стратнасць прадпрыемстваў, а таксама неканкурэнтаздольнасць прадукцыі. Па прагнозах спецыялістаў, у бліжэйшы час даўгі па зарплаце будуць расці.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

**ЛЮСТРАФАКТ**




Беларусь – краіна ЛЭПаў і «Джыпаў»

## Гніе сыравіна для цукру

Актыўнае знешняе прадзьмуванне паветрам вымушаны ладзіць для першых запасаў «салодкага» кораню на Жабінкаўскім цукровым заводзе. Буракі гніюць і грэюцца ў буртах з-за таго, што іх вырасцілі на палях без разліковых дозаў фосфарных угнаенняў. Ёсць звесткі, што быццам бы гэта тэхналагічнае парушэнне з'яўляецца сёлета незвычайна масавым, бо фосфар каштуе дорага, а пасяўная «з'ела» фінансавыя крэдыты раней, чым прыйшоў перыяд догляду пасеваў. Таму і на 105 дзён аптымальнага тэрміну перапрацоўкі здаровых буракоў не хопіць. Беларускаму спажыўцу зноў давядзецца піць гарбату і гатаваць варэнне з цукрам заморскага трыснягу...

Між тым цукар, выраблены з цукровых буракоў, – больш карысны. Нездарма ўся Еўропа адмовілася ад перапрацоўкі сырцу. У Беларусі ж наадварот: пры чаканым сёлета агульным аб'ёме вытворчасці цукру ў Жабінцы 183 тысячы тонаў, з сырцу атрымана 129 тысяч тонаў. І толькі 50 тысяч тонаў будзе з цукровых буракоў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**ТАВАРЫ**

## Яйкі заквацiравалі

Беларускім урадам зацверджаны пералік кваціраваных тавараў, што павінны быць пастаўленыя на ўнутраны рынак Беларусі, а таксама памеры квотаў на гэтыя тавары ў наступным годзе.

У прыватнасці, у 2002 годзе гэта 8 тысяч тонаў маргарынавай прадукцыі, 75 тысяч тонаў кандытарскіх вырабаў, 307 мільёнаў штук яек, 3 тысячы тонаў рыбы, 30,5 мільёнаў трыкатажных вырабаў, 41 мільён параў панчох і шкарпэтак, 2.000 тыс. тонаў сінтэтычных мыючых сродкаў і 3.100 – мыла, 1.400 тыс. квадратных метраў дываноў. 50 мільёнаў вучнёўскіх сшыткаў і 6 мільёнаў агульных. Апрача таго, гэта 131 тысяча тэлевізараў, 109 тысяч ровараў, 174 тысячы лядоўняў, 24.500 тысяч штук электрычных лямпачак, 30 тысяч газавых плітаў. З будаўнічых матэрыялаў – напрыклад, 2 тысячы кубаметраў фанеры, 650 тысяч квадратных метраў ліставога шкла, 70 тысяч тонаў цэменту.

Будзем спадзявацца, што дэфіцыту і дарагоўлі ні з чым не будзе.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Бабруйск — без наркотыкаў ні дня

Ледзь ці не кожны дзень супрацоўнікі праваахоўных органаў выяўляюць у Бабруйску асобаў, маючых дачыненне да незаконнага абароту наркотыкаў.

Калі меркаваць па міліцэйскіх зводках, самым папулярным наркотыкам у гэтым горадзе з'яўляецца гераін. 0,5 грама гэтага рэчыва 4 кастрычніка пры аглядзе было знойдзена ў 22-гадовага бабруйчаніна. У той жа дзень у Бабруйску на кватэры непрацуючай 19-гадовай дзяўчыны знойдзена і канфіскавана 50 грамаў макавай саломкі.

Падобныя знаходкі зафіксаваныя і ў іншых месцах Магілёўскай вобласці. Так, 820 грамаў саломкі было знойдзена на сядзібе 51-гадовага жыхара Чавускага раёна. У Асіповіцкім раёне затрыманы 18-гадовы жыхар Мінскай вобласці і работнік адной з мясцовых арганізацыяў, якія мелі пры сабе ўвогуле 30 грамаў канапель.

**Канстанцін УВАРАЎ**

**ТРАНСПАРТ**

## Аўтобусы і тралейбусы ў аварыйным стане

Палова аўтобусаў грамадскага транспарту Магілёва мае 100-працэнтную ступень зносу. Падобная сітуацыя са зносам тэхнікі склалася і ў тралейбусным упраўленні абласнога цэнтра.

Паводле словаў намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкама Аляксандра Кавалёва, калі ў 1997 годзе на магілёўскіх гарадскіх маршрутах працавала 290 аўтобусаў, то сёлета 209, прычым каля 50 з іх штодзённа знаходзяцца ў рамонце. Прычына такога становішча – у вялікім працэнце зносу рухомага саставу і адсутнасці прыбытку ў аўтапарка. Толькі за 8 месяцаў гэтага года фактычныя страты ад работы аўтобуснага грамадскага транспарту ў Магілёве з улікам субсідыяў перавысілі 180 мільёнаў рублёў.

Аляксандр Кавалёў адзначыў таксама, што выпрацавалі тэрмін эксплуатацыі 71 са 152 магілёўскіх тралейбусаў, 27 патрабуюць капітальнага рамонту. Тралейбусная кантактна-кабельная сетка зношаная на 50-70%.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Дурная забаўка «дубоў»

У Крычаве згарэў 300-гадовы дуб, які лічыўся помнікам прыроды мясцовага значэння.

Згодна з папярэдняй інфармацыяй, падпал дрэва, якое расло ля будынка раённай бальніцы, быў наўмысны. Дрэва ля каранёў мела дупло ў чалавечы рост, дзе невядомыя пакуль зламыснікі распалілі вогнішча, што, як мяркуецца, і стаў прычынай пажару. Пашкоджанае агнём дрэва дыяметрам каля паўтара метра ўпала ў роў.

**Канстанцін УВАРАЎ**

**ТЭАТР**

## «Коласаўцы» ў юбілейным сезоне

У Коласаўскім тэатры, што ў Віцебску, распачаўся чарговы тэатральны сезон. Калі ў Купалаўскага тэатра сезон традыцыйна распачынаецца «Паўлінкай», то ў Коласаўскім свая традыцыя – «Несцерка». А ўжо самым бліжэйшым часам – у кастрычніку – віцябляне змогуць убачыць прэм'еру. Гэта спектакль «Кацярына Іванаўна».

Гэты сезон своеасаблівы тым, што сёлета ў лістападзе Тэатру імя Якуба Коласа споўніцца 75 гадоў. І першы падарунак, абсалютна заслужаны, «коласаўцы» ўжо маюць: нядаўна тэатр на чале з галоўным рэжысёрам Віталем Барkоўскім набыў статус Нацыянальнага. Дзень адкрыцця тэатра – 21 лістапада 1926. Першы спектакль называўся «У мінулы час», а сам тэатр – Беларускі другі дзяржаўны (скарочана – БДТ-2).

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**ЭКАЛОГІЯ**

## Заказнік для... агню і ворыва

Без шырокай агалоскі на Брэстчыне прайшоў Міжнародны семінар па актуальных праблемах захавання самага вялікага ў Еўропе нізіннага балота ў межах біялагічнага заказніка «Званец» Драгічынскага раёна. Увага да гэтай тэрыторыі вялікая, бо яна з'яўляецца унікальнай рэзервацыяй расліннасці і птушынага царства. Тут гняздуецца да 6 тысяч асобінаў вяртлявай чаротаўкі з усёй 20-тысячнай папуляцыі гэтых вельмі рэдкіх у свеце птушак. Між тым, фундатары экалагічнага праекта — Праграма развіцця ААН і Каралеўскае таварыства аховы птушак (Вялікабрытанія), а таксама іх партнёры з грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Беларусі» маюць вялікія прэтэнзіі да аховы знікаючай флоры і фаўны.

Прыкладам, навуковы супрацоўнік Нацыянальнай Акадэміі навук Аляксандр Казулін сцвярджае, што з часу сваіх наведванняў заказніка з 1995 года заўважае ўсё больш павялічаныя плошчы выпаленай травы, калі выгарае да пустэчы на 4-5 гадоў верхні слой балотнага торфу. Замежныя батанікі былі здзіўленыя маштабамі разараных у заказніку зямель.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

**ЗЛАЧЫННАСЦЬ**

## Брэстчына крыміналізуецца

За дзевяць месяцаў гэтага года ў Брэсцкай вобласці зарэгістравана 5.939 злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку. Гэта значна больш, чым за аднаведны перыяд мінулага года.

Назіраецца рост крадзяжоў як асабістай маёмасці грамадзянаў, так і дзяржаўнай уласнасці. Падобныя злачынствы складаюць 60% ад агульнай колькасці ўсіх зарэгістраваных злачынстваў. Некалькі скарацілася колькасць забойстваў – з 75 летась да 66 сёлета. 93,5% забойстваў раскрыта. Знізілася колькасць выкраданняў аўтамабіляў. Сёлета іх учынена 260, што на 135 менш, чым за дзевяць месяцаў мінулага года.

Як лічыць начальнік упраўлення крымінальнага вышуку УУС Брэсцкага аблвыканкама Міхаіл Штык, крымінагенная сітуацыя з'яўляецца адлюстраваннем сітуацыі ў грамадстве, таму не варта вінаваціць у росце злачыннасці супрацоўнікаў крымінальнага вышуку. Іх работа, на думку Штыка, знаходзіцца на належным узроўні.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# «Мы застаемся надта заклапочаныя...»

## *ЗША ды іхныя саюзьнікі ня могуць прыняць вынікі выбараў у Беларусі*

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«Мы застаемся вельмі заклапочанымі наконт вартых даверу паведамленьняў пра арганізаваны Лукашэнкавым рэжымам эскадрон сьмерці, адказны за, як паведамляецца, да 30 забойстваў, улучна з забойствамі трох сяброў апазыцыі ды журналіста», — заявіла помочніца дзяржаўнага сакратара ЗША Элізабэт Джоўнз.

Яна нагадала таксама, што Злучаныя Штаты заклікалі ўрад Беларусі правесьці пільнае, незалежнае расьследаваньне публічных абвінавачаньняў, зробленых двума былымі пракурорамі ды жонкамі зьніклых і ўвязьненых апанэнтаў Лукашэнкі. Паводле спадарыні Джоўнз, усе яны наведалі Вашынгтон у ліпені, і з таго часу былі апублікаваныя дакумэнты, якія дадаюць абвінавачаньням даверу.

«Мы ўспрымаем гэтыя абвінавачаньні вельмі сур'ёзна», — зазначыла ў сваёй заяве пра амэрыканскую палітыку што да АБСЭ спадарыня Джоўнз, памочніца дзяржаўнага сакратара ЗША ў эўрапейскіх справах.

На наступны дзень пасьля абнародаваньня ў Вашынгтоне гэтае заявы Элізабэт Джоўнз у Вене адбылося паседжаньне Сталае рады АБСЭ, дзе быў заслуханы даклад кіраўніка Кансультацыйна-назіральнае групы АБСЭ ў Беларусі Ганса-Георга Віка.

Як паведаміла прэсавая служба беларускага МЗС, пасьля дакладу спадара Віка амбасадар Беларусі ў Вене Віктар Гайсёнак зноў заявіў, што КНГ АБСЭ ў Менску мусіць выконваць свой мандат, але дадаў, што беларускі ўрад гатовы на канструктыўнай аснове актыўна супрацоўнічаць з усімі міжнароднымі арганізацыямі ды інстытутамі.

Нагадаю, напярэдадні выбараў Аляксандар Лукашэнка шмат разоў публічна абяцаў выкінуць зь Беларусі кіраўніка КНГ АБСЭ амбасадара Віка — пасьля 9 верасьня.

Аднак спадар Гайсёнак пазнаёміў сяброў Сталае рады АБСЭ зь іншай Лукашэнкавай цытатай ад 25 верасьня: «Палітычную сыстэму краіны будуць адзначаць працэсы далейшае дэмакратызацыі, паступовае разьвіцьцё парлямэнтарызму і ўмацаваньне судовае сыстэмы, удасканаленьне ўсіх галін дзяржаўнае ўлады».

Паколькі мандат Кансультацыйна-назіральнае групы АБСЭ ў Беларусі, як нагадаў у Вене Віктар Гайсёнак, прадугледжвае два галоўныя напрамкі дзейнасьці КНГ — «дапамога ўладам у разьвіцьці дэмакратычных інстытутаў і маніторынг гэтых працэсаў», — пазыцыя афіцыйнага Менску цяпер палягае ў тым, што група АБСЭ можа й мусіць працягваць сваю працу ў Беларусі. Хаця спадар Лукашэнка да выбараў казаў, што КНГ сябе вычарпала.

**Юры СЬВІРКО**
**Радыё «Свабода»**

# Грамада патрабуе рэвізіі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«Да стварэння трывалай грамадзянскай кааліцыі нам трэба вырашыць адно складанае пытанне – я маю на ўвазе абвінавачанні ў нядобрасумленнасці на адрас палітычнай апазіцыі ў цэлым шэрагу СМІ, дзе нават распісваюцца тэхналогіі, як прысвойваліся грошы, што інвеставаліся замежнымі фондамі на падтрыманне дэмакратыі на Беларусі. Абвінавачанні гэтыя вельмі сур'ёзныя, таму што яны падрываюць рэпутацыю апазіцыі ў грамадстве, а таксама могуць усталяваць недавер паміж суб'ектамі кааліцыі. Я ўпэўнены, што гэтыя абвінавачанні беспадстаўныя, але каб рухацца наперад, мы мусім узяць ды праверыць адзін другога», — дыпламатычна гаворыць Мікола Статкевіч.

Аднак, як кажуць, дыму без агню не бывае. Гэта ў інтэрв'ю ўскосна пацвердзіў і старшыня Народнай Грамады. «На жаль, цэнтральны выбарчы штаб адзінага кандыдата не ў поўным аб'ёме выканаў свае абавязацельствы перад рэгіянальнымі штабамі. А аснову каманды адзінага кандыдата складалі якраз сацыял-дэмакраты. У чатырох абласцях з шасці менавіта сацыял-дэмакраты кіравалі выбарчай кампаніяй, дый і ў Гомельскай і Гродзенскай абласцях яны былі не на апошніх ролях. І цяпер нашыя рэгіянальныя кіраўнікі апынуліся ў складанай сітуацыі. Усё гэта на фоне абвінавачанняў у карупцыі прыводзіць да росту напружанасці найперш у нашай партыі, бо Народная Грамада на выбарах выставіла самую вялікую колькасць валанцёраў – 4,5 тысячы чалавек», — сказаў Мікола Статкевіч.

Ён упэўнены, што ўсе абвінавачанні ў карупцыі – гэта «паклёп», і таму прапануе ў рамках Палітсавета стварыць рабочую групу з вядомых юрыстаў для падрыхтоўкі судовага іску, у прыватнасці, да Аляксандра Фядуты.

**Рыгор БУЯН**

# Беларускі авіяцыйны парк на тле катастрофы



*Інцыдэнт з расейскім пасажырскім самалётам адбіўся практычна на ўсіх авіярэйсах з Ізраілю. У пятніцу ў менскім аэрапорце самалёт кампаніі «Белавія» прызямліўся са спазьненьнем на некалькі гадзінаў.*

Кожны надзвычайны выпадак з самалётамі расейскай вытворчасьці вымушае кіраўніцтва беларускага Дзяржкамавія ўзгадваць, што айчынны авіяпарк на 80% выпрацаваў свой рэсурс. Пакуль чыноўнікі ведамства апраўдваюцца тым, што трагічных здарэньняў на рахунку беларускай авіягаліны няма.

Сапраўды, усе датычныя Беларусі катастрофы прыпадаюць на савецкі пэрыяд. У 1979 годзе ў паветры над украінскім Днепрапятроўскам сутыкнуліся два самалёты, адным зь якіх у Менск выпраўлялася футбольная каманда ташкенцкага «Пахтакору».

Праз год самалёт рэйсу Менск–Ленінград са студэнтамі геафаку БДУ на борце пацярпеў катастрофу пад Менскам. У 1986-м Ту-134 менскага фармаваньня з прычыны дрэнных мэтэаўмоваў упаў у Нямеччыне.

Між іншым, штогод фіксуецца мноства аварыйных сытуацыяў. Паводле зьвестак Дзяржкамавіяцыі, у 1998-м годзе непасрэдна ў паветры, а таксама наземнымі службамі аэрапортаў было зафіксавана 55 пазаштатных здарэньняў. У 1999-м — 35. Летась паказчык быў самы нізкі, затое ледзьве ўдалося пазьбегнуць катастрофы: у сьнежні 2000-га пры заходзе на пасадку ў аэрапорце «Менск-2» у апошнюю хвіліну пашчасьціла ліквідаваць няспраўнасьці ў сыстэме выпуску шасі.

Адметна, што якраз учора ў Манрэалі закончыла працу 33-я сэсія Асамблеі ІКАО — Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі. Разам з шэрагам пытаньняў у справе падвышэньня бясьпекі палётаў разглядалася і заява краінаў-сяброў Эўрапейскага авіяконсорцыюму на абмежаваньне міжнародных рэйсаў самалётамі маркі ТУ. Узровень шуму й нормы экалягічнай неадпаведнасьці гэтых самалётаў даўно не даюць спакою авіяслужбам замежных дзяржаваў.

Паказальна, што менавіта кіраўнік беларускай дэлегацыі, старшыня Дзяржкамавія Фёдар Іваноў рашуча выступіў супраць падобных прапановаў. Пазыцыю Іванова зразумець можна: беларускія авіякампаніі на 100% укамплектаваныя тэхнікай, якая зараз прыдатная для карыстаньня выключна ў межах СНД. Ужо зараз транспарты беларускага й расейскага фармаваньняў маюць праблемы з палётамі над Эўропай.

У большасьці аэрапортаў краінаў Эўразьвязу самалётам ТУ-134 забаронена ўзьлятаць ды прызямляцца ў выходныя дні. Узровень шуму рухавікоў і чорныя сьляды ад паліва ў небе далёкія ад усіх стандартаў. Некаторыя рэйсы з гэтай прычыны пераносяцца нават на рэзэрвовыя аэрадромы.

Апошні падобны выпадак быў напачатку кастрычніка, калі італьянскія авіяслужбы не дазволілі самалёту ТУ-134 з гульцамі футбольнай каманды барысаўскага БАТЭ прызямліцца ў Мілане, а накіравалі яго ў Бэргама, што ўбаку за 100 кілямэтраў. Але пакуль што ніякіх высноваў у Беларусі з гэтай нагоды не зрабілі.

Эканаміст Васіль Шлындзікаў так адкаментаваў праблемы беларускіх авіякампаніяў: «Многія замежныя кампаніі маглі б прыйсьці ў Беларусь ня толькі са сваёй тэхнікай, але й са сваім капіталам. Тое ж, у прынцыпе, тычыцца й расейскіх вытворцаў. Але тут ужо трэба падзяляць: тыя, хто хоча рэальна працаваць, і тыя, хто хоча зарабіць на супрацоўніцтве з уладамі. Трэба сказаць, што ў апошніх шанцаў замацавацца куды больш. Таму пакуль будзе праводзіцца цяперашняя палітыка, пэрспэктываў ніякіх».

Паводле кіраўніцтва Камітэту па авіяцыі, зараз няма падставаў зьмяняць палітыку ў галіне авіяцыйнага парка. Праўда, аргумэнты пры гэтым прыводзяцца даволі непераканаўчыя, перадусім — пераарыентацыя на карысьць замежных вытворцаў авіятэхнікі запатрабуе вялікіх выдаткаў у справе навучаньня пэрсаналу замежным мовам.

Але самі лётчыкі ў кулюарах так ня лічаць, бо яны й без таго ў абавязковым парадку вывучаюць ангельскую мову. Некаторыя мяркуюць, што тут справа ў палітычным аспэкце, бо існуе адмысловая беларуска-расейская праграма аднаўленьня самалётных рухавікоў на менскім авіярамонтным заводзе.

Застаецца дадаць, што тэрмін службы самалёту завод-вытворца вызначае ў 20-25 гадоў. Большасьць самалётаў беларускага авіяпарка паступова дасягае свайго крытычнага ўзросту.

**Ігар КАРНЕЙ**
**Радыё «Свабода»**

**СІЛАВІКІ**

# Іракскія снайперы ў Беларусь не едуць?

У пасольстве Ірака ў Беларусі абвяргаюць інфармацыю пра тое, што іракскія афіцэры будуць вучыцца ў Ваеннай акадэміі Беларусі. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН дарадца пасольства Мустафа Альдуры назваў паведамленні аб гэтым «недарэчнасцю і правакацыяй».

Інфармацыя пра тое, што 4 кастрычніка ў Мінск па запрашэнні міністэрства абароны Беларусі прыбыла група афіцэраў іракскай арміі, якой на працягу двух гадоў трэба будзе вучыцца ў Ваеннай акадэміі краіны, з'явілася ў некаторых беларускіх СМІ і на асобных расійскіх сайтах у інтэрнэце. Паведамлялася, што ўсе афіцэры служаць у часцях супрацьпаветранай абароны Ірака, і ў Мінску ім трэба будзе асвойваць зенітна-ракетныя комплексы сярэдняй далёкасці С-300. Месяц абучэння аднаго афіцэра ў Ваеннай акадэміі Беларусі будзе каштаваць іракскай казне 2,5 тысячы долараў ЗША.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Збілі за беларускую мову

Валеры Пазьнякевіч — журналіст, які ўжо некалькі гадоў вядзе ў газеце «Чырвоная змена» рубрыку «Крымінал», быў збіты супрацоўнікамі міліцыі за тое, што гучна размаўляў на вуліцы па-беларуску.

Журналіст быў збіты 2 кастрычніка непадалёку ад гатэля «Арбіта». 3 кастрычніка Валеры Пазьнякевіч звярнуўся ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» і распавёў наступнае: «Я вяртаўся ад сваёй сястры, якая жыве ў мінскім мікраёне Сухарава. На праспекце Пушкіна падышоў да гандлёвага шапіка, каб набыць цыгарэты. Шапік быў ужо зачынены, але ў ім гарэла святло, там я пагрукаўся ў дзверы і, звярнуўшыся да дзяўчат па-беларуску, папрасіў, каб яны прадалі мне пачак цыгарэт. У гэты ж момант мяне збілі з ног два супрацоўнікі патрульна-паставой службы міліцыі і пачалі збіваць нагамі па галаве і іншых частках цела. Амаль у непрытомным стане мяне даставілі ў аддзяленне міліцыі (па адрасе вул.Адзінцова – 47). У аддзяленні я крыху апрытомнеў, аднак у мяне моцна балела галава. Я запатрабаваў, каб супрацоўнікі міліцыі патлумачылі мне, на якой падставе яны мяне затрымалі. Дастаў з сумкі дыктафон і ўключыў на запіс. Калі міліцыянты заўважылі, што я запісваю, яны закінулі мяне ў камеру. Я патрабаваў правядзення экспертызы на алкаголь (мне прыпісвалі стан алкагольнага ап'янення і бойку з «малалеткамі»). У экспертызе мне адмовілі, не дазволілі таксама і зрабіць адзін тэлефонны званок дамоў. Пры гэтым я быў абсалютна цвярозым, перад гэтым некалькі месяцаў зусім не ўжываў алкаголю. Прасядзеў я ў аддзяленні цэлую ноч да 15.30. Адтуль быў дастаўлены ў суд па вул.Дуніна-Марцінкевіча. Я вырашыў бараніць свае правы пасля таго, як даведаўся, што мяне абвінавачваюць па арт.156 КаАП РБ (дробнае хуліганства), міліцыянты сцвярджалі, што я быў п'яны — валяўся па зямлі, « не вязаў лыка языком»... Адразу з суда я накіраваўся на наркалагічную экспертызу. Экспертыза не выявіла наяўнасць алкаголю. Лічу, што мяне затрымалі толькі за тое, што я размаўляў з дзяўчатамі па-беларуску – зрэагавалі агрэсіўна на беларускую мову. Суд па маёй справе перанесены на 17 кастрычніка на 10 гадзінаў раніцы ў судзе Фрунзенскага раёна г.Мінска».

**Інфармацыйны аддзел**
**ПЦ «Вясна»**

**ІНТЭГРАТАР**

# Ствараецца дэкарацыя — саюзны парлямэнт

Выбары ў саюзны парлямэнт супярэчаць Канстытуцыі Беларусі, а таму яны могуць быць праведзеныя толькі пасьля прыняцьця так званага канстытуцыйнага акту. Пра гэта Радыё Рацыя заявіў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч. Як беларускія, так і расейсія дэпутаты цьмяна ўяўляюць функцыі будучага органу. Дэпутат расейскай Дзярждумы ад Саюзу правых сілаў Вадзім Бондар у інтэрвію РР назваў саюзны парлямэнт дэкаратыўным органам.

На шляху стварэньня так званага саюзнага парлямэнту як беларускіх, так і расейскіх дэпутатаў чакае шмат перашкодаў, галоўная зь якіх – факт узьнікненьня саюзнага парлямэнту супярэчыць Канстытуцыі Беларусі. Тым ня менш, у парадак дня восеньскай сэсіі Палаты прадстаўнікоў ужо ўнесенае пытаньне пра разгляд у другім чытаньні законапраэкта пра выбары ў ніжнюю палату саюзнага парлямэнту. Сьпікер Папоў паабяцаў, што закон будзе прыняты ў лістападзе-сьнежні сёлета. Прычым зроблена гэта будзе сынхронна з Дзяржрдумай Расеі.

Дэпутат Палаты Іван Пашкевіч заявіў у інтэрвію Рацыі, што дадзены законапраэкт супярэчыць Канстытуцыі Беларусі, дзе ні пра які саюзны парлямэнт гаворкі не вядзецца. На думку Івана Пашкевіча, спачатку трэба прыняць канстытуцыйны акт і толькі пасьля весьці гаворку пра стварэньне саюзнага парлямэнцкага органу. Іван Пашкевіч заявіў, што ня верыць у заявы старшыні ЦВК Расеі Аляксандра Вешнякова пра тое, што выбары ў саюзны парлямэнт могуць адбыцца ўжо ў сакавіку-красавіку.

«У парлямэнце, – кажа Іван Пашкевіч, – я выступаў супроць гэтага дакумэнту. Я казаў, што гэты законапраэкт супярэчыць Канстытуцыі Беларусі. І калі ня будзе прыняты канстытуцыйны акт, калі ня будуць вырашаныя гэтыя супярэчнасьці, то гэты закон прымаць нельга».

Як расейскія, так і беларускія дэпутаты пакуль цьмяна ўяўляюць сабе функцыі саюзнага парлямэнту. Дагэтуль нявырашаным застаецца пытаньне, які характар будуць насіць рашэньні новага органу – кансультацыйны ці абавязковы. Іван Пашкевіч гаворыць, што беларускі бок настойвае на тым, каб рашэньні саюзнага парлямэнту былі наўпроставага дзеяньня.

«Калі глядзець на гэтую праблему з боку Расеі, – гаворыць Іван Пашкевіч, – то расейцы жадаюць надаць гэтаму органу кансультацыйны характар. Але ж Беларусь жадае надаць гэтаму органу наднацыянальныя функцыі, каб рашэньні насілі характар наўпроставага дзеяньня».

Дэпутаты расейскай Дзярждумы, у адрозьненьне ад сваіх калегаў з беларускай Палаты прадстаўнікоў, не хаваюць свайго скептыцызму адносна парлямэнту саюзнай дзяржавы. Пра гэта ў інтэрвію Рацыі заявіў дэпутат Дзяржрдумы ад Саюза правых сілаў Вадзім Бондар. Паводле ягоных зьвестак, асновай саюзнага парлямэнту з боку Расеі стануць дэпутаты, якія свой палітычны век ужо аджылі.

«Да, можно избрать союзный парламент, – згодны Вадзім Бондар. – Но какие вопросы он будет решать, каковы будут его функции? Ответов на эти вопросы мы пока не знаем. Я тут в Москве выяснял – кто кого собирается выдвигать, какие люди туда собираются выдвигаться и т.д. И выяснилось, что в России такая тенденция, что союзный парламент превратится в такую почётную ссылку для политиков, которые как политики уже никому не нужны, но их надо куда-то посадить».

Дэпутат Дзяржрдумы Вадзім Бондар прагназуе, што Крэмль ніколі не пагодзіцца на тое, каб рашэньні саюзнага парлямэнту насілі характар наўпроставага дзеяньня. Да праблемаў ва ўзаемаадносінах выканаўчай і заканадаўчай галінаў улады ў Расеі дадаўся яшчэ адзін галаўны боль – саюзны парлямэнт. Акрамя таго, сп. Бондар нагадаў, што ўтрымліваць саюзны парлямэнт плянуецца са сродкаў саюзнага бюджэту. А Беларусь апошнім часам выдаткавала ў саюзны бюджэт толькі 14 адсоткаў ад сваёй долі. Гэта азначае, што саюзны парлямэнт можа чакаць такі ж незайздросны лёс, як і шэраг іншых беларуска-расейскіх праэктаў.

**Юрась КАРМАНАЎ**
**Радыё «Рацыя»**

НАВУКА

## Ученый обнаружил Атлантиду

Известный французский историк Жак Коллина-Жирар утверждает, что ему удалось обнаружить местоположение легендарной Атлантиды. По его словам, этот остров находится под водой к западу от Гибралтарского пролива. По словам ученого, правильное направление поиска у него возникло после внимательного чтения трудов древнегреческого философа Платона, который пишет, что этот остров находился в океане между Испанией и Африкой. Однако по непонятной причине ранее никому не пришло в голову искать оказавшуюся под водой Атлантиду именно в этом регионе. В результате исследования дна в этом месте, проведенного Ж.Коллина-Жираром, ему удалось найти признаки бывшего острова. При этом, однако, размеры вероятной Атлантиды намного меньше описанного Платоном, который заявлял, что ее площадь «больше, чем Ливии и Азии, вместе взятых». В прошлом многие ученые не раз сообщали, что им удалось обнаружить исчезнувший остров. Атлантидой считали Азорские и Канарские острова, остров Мадейру, Бермудский треугольник и некоторые другие места планеты.

**Эльза фон КУРЛОФ**

ЗДАРОЎЕ

## Стаматалагічны лікбез

З 15 кастрычніка па 11 лістапада другі год запар пройдзе акцыя «Месяц здаровай усмешкі», арганізаваная Беларускай стаматалагічнай асацыяцыяй пры падтрымцы кампаніі «*Colgate Palmolive*».

Як і мінулым годам на працягу гэтага месяца любы жадаючы па папярэдняй дамове можа звярнуцца да тых 200 урачоў, якія задзейнічаны ў праграме, і дазнацца, якія зубныя хваробы ён ужо набыў і як правільна чысціць зубы, каб радзей трапляць да стаматолага.

Чысціць зубы абавязкова трэба два разы на дзень: зранку пасля сняданку і перад сном. Спачатку шчоткай і пастай, якая абавязкова павінна ўтрымліваць фтор – не менш 0,15%, інакш няма сэнсу чысціць. Як распавяла Вольга Мілюк, стаматалагічны гігіеніст кампаніі «Colgate Palmolive», сама працэдура цягнецца 2-3 хвіліны: дарослым больш увагі трэба надаваць прамежку паміж зубоў, а дзецям – жавальнай паверхні (там больш за ўсё скопліваецца зубнога налёту). Не варта забывацца на язык – яго таксама трэба «пачысціць» шчоткай.

Але адной шчоткай зубам не дапаможаш. Разам з гэтым трэба скараціць колькасць сталаванняў і спажывання салодкага да 5 падыходаў на дзень і перайсці да ўжывання фтарыраванай солі. Спажываючы соль з фторам рэгулярна, праз 5-10 гадоў хварэць на карыес будзеце ў 2 разы менш.

Калі не зважаць на парады ўрачоў і працягваць усё рабіць, як навучылі вас яшчэ бацькі, вы рызыкуеце да 65 гадоў мець 22 карыесныя зубы альбо пазбавіцца ўжо 15.

Гэта дадзеныя міністэрства аховы здароўя па існуючай цяпер сітуацыі па краіне.

**Алена ЛАБАНАВА**

ГЕНЕАЛОГІЯ

## У пошуках продкаў

Да 80 генеалагічных запытаў штогод выконваюць беларускія архівісты.

Мажлівасць генеалагічнага пошуку па беларускіх архівах з'явіўся дзесяць гадоў таму. Няма навукова-даведачнага апарата, і праца па ім яшчэ не адточана, а таму цягнецца гэты працэс марудна. Зараз ахвотным дазнацца аб сваіх продках давядзецца чакаць 8 месяцаў. Раней чэргі на такі пошук наогул доўжыліся па 3 гады.

Паслуга гэта платная. Замежнікам паслугі беларускіх архівістаў абыдуцца значна даражэй – ад 300 долараў і вышэй. Паколькі каштарыс залежыць толькі ад аб'ёмаў прагледжаных матэрыялаў і ад колькасці шуканых пакаленняў, плаціць давядзецца нават пры адсутнасці выніку. Займацца пошукам можна і самастойна, але без дапамогі спецыялістаў архіва на гэта можа сысці значная частка жыцця, таму сэканоміць на гэтым не атрымаецца.

Па словах в.а. намесніка старшыні Нацыянальнага цэнтра архіваў і справаводства Уладзіміра Адамушкі, тым, хто жадае даведацца аб сваіх каранях, спачатку трэба падаць у архіў заяву і папярэдне заплаціць за пошук 2 мінімальныя заробкі, замежнікам – 50 долараў. Для пошуку продкаў родам з Гродзенскай губерні трэба звяртацца ў Нацыянальны гістарычны архіў у Гродне, а з Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай і часткі Віленскай – у Нацыянальны гістарычны архіў, што знаходзіцца ў Мінску.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Мосты через генетический водораздел

**Салестес ДЖУМА, руководитель программы по науке, технологии и инновациям Центра международного развития при Гарвардском университете, бывший исполнительный секретарь конвенции ООН по биологическому разнообразию**

*Дебаты относительно генетически модифицированных (ГМ) продуктов ведутся в каждом уголке земного шара. Хотя беспокойства по поводу ГМ продуктов во многом обоснованы, эти дебаты больше всего вредят интересам развивающихся стран. Потому что страны, сталкивающиеся с постоянной угрозой недостаточного снабжения продовольствием, считают важным для своего развития получение доступа к новым биотехнологиям. Их надеждам на безопасное и ответственное использование этих технологий угрожает массовая активность защитников окружающей среды и потребителей в промышленно развитых странах.*

Поскольку большинство биотехнических продуктов производятся и потребляются лишь в нескольких странах – Соединенных Штатах, Канаде, Аргентине и Китае,– то между богатыми и бедными странами возник «генетический водораздел». Этот разрыв может вызвать серьезные проблемы по причине возрастающего значения биотехнологий в сельскохозяйственном производстве, здравоохранении и охране окружающей среды.

Перспективы убрать этот разрыв будут определяться по крайней мере тремя взаимосвязанными факторами:

– как будут разрешены споры по поводу безопасности генетически модифицированных (ГМ) продуктов;

– насколько развивающиеся страны возьмут на себя ответственность за построение базы для участия в международном сотрудничестве в области биотехнологических исследований;

– насколько промышленно развитые страны будут делиться технологией и опытом с более широким кругом развивающихся стран.

В настоящий момент многие промышленно развитые страны сокращают поддержку международных программ по биотехнологическим исследованиям, предназначенных для удовлетворения нужд развивающихся стран. Другие развитые страны боятся поддерживать международные программы сотрудничества в области биотехнологий из опасений вызвать негативную политическую реакцию местных групп по охране окружающей среды и защите прав потребителей.



Еще больше усложняет дело тот факт, что такие международные организации, как Продовольственная и сельскохозяйственная организация ООН (ФАО) и Консультативная группа по международным исследованиям в области сельского хозяйства (*CGIAR*) – созданные специально для обеспечения безопасности продуктов во всем мире – не могут взять на себя руководство в данном вопросе из-за противоречивых сигналов от правительств. Поэтому сообщения, исходящие от этих органов, довольно сбивчивы; их действия парализованы.

Но виноваты в этом обе стороны. Хотя большинство развивающихся стран заинтересованы в использовании биотехнологий для обеспечения своих потребностей в продовольствии, здравоохранении и охране окружающей среды, их политика и ресурсы не согласуются с этими желаниями. Лишь несколько из развивающихся стран (включая Китай, Индию, Бразилию и Аргентину) проводят ясную политику в отношении биотехнологий.

В придачу к этому в большинстве развивающихся стран не приняты соответствующие регулятивные соглашения, гарантирующие безопасность, защищающие иностранные инвестиции и способствующие расширению международного сотрудничества посредством усиления исследований на местах. Отсутствие внутренних правил безопасности делает эти страны уязвимыми к внешним воздействиям, особенно со стороны сил, которые хотят ограничить применение биотехнологии.

Для развивающихся стран пришло время пересмотреть имеющуюся у них инфраструктуру для проведения исследований и переориентировать университеты на обслуживание экономических целей. Многие университеты развивающихся стран все еще в первую очередь используются для подготовки чиновников гражданских служб, несмотря на то, спрос на таких специалистов в государственных учреждениях снижается. Поскольку во всем мире не хватает научных и технических специалистов в ряде областей науки и техники, то развивающиеся страны должны переориентировать свои университеты на подготовку специалистов и проведение исследований в этих научных и технических областях знания.

Также назрела необходимость в более эффективном использовании человеческих ресурсов. Хотя развивающиеся страны стенают по поводу миграции ученых в промышленно развитые страны, они не много делают для обеспечения им возможности вносить свой вклад в развитие науки у себя на родине. Старые идеи об «утечке мозгов» должны уступить дорогу более конструктивным подходам по использованию навыков в условиях всемирной глобализации. В действительности, успехи в развитии коммуникационной технологии сделали возможным использование человеческих ресурсов независимо от их географического положения.

Изобретатели из развивающихся стран у себя на родине вскоре начнут выступать с требованиями, чтобы плоды их интеллектуального труда получали такой же уровень признания и защиты, как это имеет место в отношении труда их коллег в других частях мира. Но правительства развивающихся стран должны также гарантировать, что международные стандарты, такие как защита интеллектуальной собственности, отражают более широкие общественные ценности, как это уже было признано в соглашении ВТО по интеллектуальной собственности, связанной с торговлей (TRIPS).

Такие попытки могут быть предприняты, если науке будет позволено по праву занять центральное место в обществе. Страны, которые будут способствовать перетоку знаний между различными секторами общества, будут находиться в лучшем положении для того, чтобы воспользоваться успехами биотехнологии.

Все усилия развивающихся стран, какими бы настойчивыми они ни были, ни к чему не приведут, если промышленно развитые страны не расширят свое сотрудничество с ними посредством развития возможностей проведения научных исследований в университетах и научно-исследовательских институтах развивающегося мира.

**© Project Syndicate**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 8– 14 октября

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. Если уж в середине недели вы с кем-то заключаете финансовые договоренности или рассчитываетесь деньгами, следует позаботиться о документальном оформлении в присутствии свидетелей или посредников. В выходные дни придется держать ответ перед супругом или партнером, созреет конфликт с вышестоящими. Не будьте столь прямолинейны, постарайтесь по-дружески и уважительно войти в их положение, привлеките друзей.



**ТЕЛЕЦ**. В середине недели нелегко будет сделать выбор между чувствами и долгом в личной жизни, по отношению к детям. Тем более что претензии обоснованны. Однако в данном случае рекомендуется расчет, взвесьте свои возможности на ближайшие пару недель и дипломатично обоснуйте свою версию. В выходные дни вероятен конфликт с органами следствия или родственниками, находящимися в больнице или в затруднительном положении. Заранее продумайте правдоподобные пути решения.



**БЛИЗНЕЦЫ**. Даже размеренная семейная жизнь может дать трещину, личные разногласия возникают по элементарным бытовым проблемам среди недели. Благотворно вмешательство детей в процесс гармонизации отношений, хорошо бы подключиться к их задачам, и тогда может быть толк. На выходные дни кто-то затевает ветреный роман, а кому-то выпадает удача уехать или отправить близкого учиться, может быть – выступить на публике в дальних краях.



**РАК**. Прежде чем что-либо покупать или преобразовывать в доме, отправлять кого-то на лечение, рекомендуется лично убедиться в надежности и согласованности всех составляющих процесса. В противном случае придется доплачивать в выходные дни. Много шума по поводу прав на квартиру или недвижимость, отношения с супругом готовы накалиться. Здесь ничего лучше не придумаешь, как участие и помощь нотариуса.



**ЛЕВ**. Прямо-таки театральные действия разворачиваются вокруг любви и ответственности, особенно если речь идет о благополучии детей. Вполне естественно сейчас обговорить поначалу все спорные моменты, прежде чем вкладывать деньги. В выходные может случиться обвал работы, и если вы не справитесь, то конфликт с начальником неизбежен. Желательно исключить на уик-энд коммерческие поездки в дальние края. Вы откроете много нового и интересного в супруге.



**ДЕВА**. В середине недели намечается то ли перестановка мебели, то ли смена квартир и офисов. Правда, процесс способен затянуться на пару недель. В выходные дни вы осознаете, что перестройки и игры обходятся в копеечку. Появится повод предъявить начальникам финансовые требования по окладу. Но здесь тактика танкового похода губительна. Попытайтесь оригинальными бюрократическими, служебными перестановками добиться своего, прислушайтесь к дружеским советам на уик-энд.



**ВЕСЫ**. Среди недели вас могут обвинить в огласке каких-то неверных сведений, предъявить претензии, а кого-то исключить из учебного заведения из-за неуплаты. Желательно подстраховываться документами, свидетелями. Автомобиль оставьте на стоянке, в надежном месте в среду и четверг. В выходные дни могут быть попытки найти компромат в вашем доме, вызвать на дуэль. На уик-энд молодые люди украшают личную жизнь, кто-то знакомится с претендентами на брак.



**СКОРПИОН**. Среди недели никуда не деться от финансовых претензий. Ситуацию могут нейтрализовать друзья и те, с кем вы подспудно, тайно ведете дела или переговоры. Если почувствовали недомогание – вовремя лечитесь, поскольку в конце недели можно слечь в постель. Дежурства на работе или сверхурочные в выходные проходят слишком динамично, с эксцессами. А вот в доме появятся ценные для вас гости, ощущение тепла и заботы.



**СТРЕЛЕЦ**. На работе малейшие профессиональные просчеты или недостача в середине недели «сбрасываются» на вас. Неплохо бы подстраховаться коллективной ответственностью, собранием и обсуждением. В выходные дни дети готовы основательно подчистить карманы. Если уж выбрасывать средства, то неплохо бы на уик-энд отправить посылки и письма, встретиться с теми, кто готов поддерживать вас профессионально или помочь в осуществлении задуманного.



**КОЗЕРОГ**. Среди недели намечаются игры на работе. Впрочем, интриги не исключены и среди тех, кто вам симпатизирует или даже любит. Очень важно документальное оформление любых предложений, даже если для этого потребуется дополнительное время. Вам стоит закручивать какой-то бюрократический процесс, кому-то – лечь в больницу на обследование. В выходные дни вероятен небольшой коммерческий успех, финансовый выигрыш, но на родственников или домашних придется поработать.



**ВОДОЛЕЙ**. Фундамент под вами качается, сильные оппоненты могут и в суд подать. Продумайте законодательные вопросы. Гости издалека способны повысить ваш рейтинг. Если уж тайну не удается скрыть или трудно обойти конкурентов в выходные, все-таки не прячьтесь. Используйте любые, в том числе и неформальные методы общения, ведения дел с заинтересованными лицами. На уик-энд кто-то выигрывает дальнее путешествие, а у кого-то дети готовы затеять брачный процесс.



**РЫБЫ**. В середине недели кое-что делается для того, чтобы кто-то занял ваше кресло или должность. При этом попытаются применить финансовые рычаги воздействия. Обязательно подстраховывайтесь запасными вариантами. В выходные вероятны непредвиденные расходы или обвинение в разбазаривании средств, потребуется вмешательство партнеров или супруга. Если есть команда, имущество, дети на вашей стороне – есть порох в пороховницах.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1769 Нумар падпісаны ў друк 7/10/2001 (15:00) Наклад – 9.900